



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

28 жніўня 2015 года №35 **(1061)**


**Пажарны ўезд у садок застаўляюць машынамі** старонка 2

**У Вілейцы мяняюць расклад і ўводзяць новыя прыпынкі** старонка 3

Апошні Козел-Паклеўскі, які нарадзіўся на Вілейшчыне:
**"Мы прыехалі на святое месца, дзе косці расстралянага бацькі"** старонка 20

Студэнт Акадэміі мастацтваў:
**"Я скульптар, з сябе каго заўгодна вылеплю!"** старонка 21

# *Быць настаўнікам — гэта страшна і заманліва*

**Дзве маладыя спецыялісткі Анастасія Сівіцкая і Вольга Федзіна ад 1 верасня пачынаюць працаваць настаўніцамі нямецкай мовы ў гімназіі №10 у Маладзечне. Хто як рыхтуецца да Дня ведаў, чытайце на 2-й старонцы**

Фота Наталлі ТУР.

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА!

# Пажарны ўезд у садок застаўляюць машынамі

МАЛАДЗЕЧНА

**Кіроўцы кідаюць свае аўто проста перад варотамі садка №10, пад самім знакам "Уезд забаронены".**

Абураная нядобрасумленнымі кіроўцамі загадчыца садка **Ала Бабенка** паскардзілася ў рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты":

– Нашы пастаўшчыкі не могуць пад'ехаць да харчблока, і работнікі садка самі цягаюць скрынкі! Ідзіце, пагляздзіце, хіба ж так можна!

Работнікі садка вымушаны некалькі разоў на тыдзень насіць ежу для дзяцей уручную за метраў сто, таму што нядобрасумленныя кіроўцы пакідаюць машыны так, што праехаць на тэрыторыю садка і разгрузіцца блізу немагчыма.

Проста перад варотамі, пад знакам "Уезд забаронены", стаіць машына. Побач спыніліся дзяржаўтаінспектары. Усе чакаюць кіроўцу, якога няма 40 хвілін. Неўзабаве падыходзяць дзве жанчыны. Загадчыца садка і дзяржаўтаінспектар пачынаюць абурацца. З твару кіроўцы знікае ўсмешка, яна разгублена апраўдваецца:




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Кіроўцу, што пакінула машыну пад забараняльным знакам, чакалі 40 хвілін.

– Тут да нас стаяла ўжо машына! І больш не было куды ставіць! Выбачайце, але не трэба на мяне лаяцца!

Пакуль дзяўчыне выпісваюць штраф на 270 тысяч рублёў, Ала Пятроўна дзеліцца няшчасцем:

– Панядзелак і аўторак мы адпачываем ад гэтых машын. Як толькі серада, чацвер і пятніца, базарныя дні, вакол агароджы другая агароджа – з машын.

Да размовы далучаецца кладаўшчыца **Ірына Сідарэвіч**:

– А як папросіш, каб прыбралі, абкладаюць матам! І мужчыны, і жанчыны. Таму толькі ДАІ і ратуе. Але ж мы праз гэта спазняемся: часам са спазненнем прыязджае пастаўшчык, мы пакуль перацягаем, яшчэ ж зварыць дзецям трэба. Я і цяпер памятаю, як зімой было цяжка 50 літраў малака цягнуць!

Грузаперавозчыкі звычайна не дапамагаюць работнікам садка: гэта не іх праца. А бывала, што пастаўшчык не мог пад'ехаць да харчблока, а пакуль яго разгрузілі б, то спазніўся б на наступны пункт. Мужчына з'ехаў, не разгрузіўшыся.

Кіроўца папрасіла прабачэння і з'ехала. А работнікі садка і інспектары ДАІ пачалі абмяркоўваць сітуацыю.

– Шлагбаўм не дапаможа: ставілі перад варотамі, будуць ставіць перад шлагбаўмам. Таблічкі пісаць? Дык дарожны знак стаіць. Застаецца толькі спадзявацца на тое, што, прачытаўшы у газеце, кіроўцы задумаюцца. А калі не, ДАІ выклікаць мы ўжо навучаныя, – падсумоўвае Ала Бабенка.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Архіў "РГ".

20 ГОД "РГ"

## Псіхолаг Таццяна Жданава: "Рэгіянальная газета для мяне знаходка"

МАЛАДЗЕЧНА

**Пастаянная чытачка "Рэгіянальнай газеты" і адна з аўтарак Таццяна Жданава выказалася пра газету, пра яе плюсы і недахопы.**

Яна стала актыўным чытачом "Рэгіянальнай газеты" каля чатырох гадоў таму.

– Газета для мяне знаходка. Падабаецца тое, што ў выданні вельмі вялікі аб'ём інфармацыі, яна "гарачая" – не стогадовай даўніны. Найперш знаёмлюся са здарэннямі. Люблю рубрыку "Калейдаскоп", чытаю гараскоп. Не магу сказаць, што веру ў яго, але чытаю пастаянна.

Хачу падзякаваць газеце за рэпертуар кінатэатраў і тэатраў, які пастаянна друкуецца ў газеце. Гэта вельмі зручна.

Хацелася б, каб газета стала каляровай, бо часам вашы паспяховыя здымкі губляюцца на чорна-белым фоне.

Асобную падзяку выданню выказваю за тое, што газета ідзе нага ў нагу з часам – у газеты ёсць сайт, адпаведныя старонкі ў сацыяльных сетках.

Жадаю вам развівацца, мноства падпісчыкаў і чытачоў, болей крэатыўнасці і натхнення.

**З павагай, Таццяна ЖДАНАВА.**

ШКОЛА

## Школьніца: Калі збіралася ў школу, доўга шукала якасныя рэчы

АШМЯНЫ

**Пра тое, як рыхтуюцца да новага навучальнага года школьнікі, мы распыталі Вікторыю Янушкевіч з Гальшанаў.**

Вікторыя вядомая нашым чытачам тым, што летась яна разам з **Паўлам Сянкевічам** выратавала мужчыну і жанчыну ад патаплення. Тады пара заснула на вадзяным матрацы, які далёка аднесла ад берага, а ён яшчэ пачаў спускаць паветра. Школьнікі выратавалі абаіх.

Сапраўды геройскі ўчынак не застаўся безуважным. Віка і Паша сталі аднымі з асноўных прэтэндэнтаў на званне "Асоба года" па версіі чытачоў "РГ".

Павел сёлета не змог паступіць у Ваенную акадэмію: вельмі вялікі конкурс. Падаў дакументы ў політэхнічны каледж у Гродне, 28 жніўня будзе засяляцца ў інтэрнат.

А Вікторыя цяпер таксама жыве звычайнымі школьнымі клопатамі. Дзяўчына збіраецца ў 9 "Б" Гальшанскай школы.

– Вельмі хачу убачыць аднакласнікаў, але вучыцца не вельмі хочацца, – шчыра прызнаецца Віка. – Адзенне і канцылярыю куплялі ў Ашмянах, большасць на рынку. Аддалі каля пяці мільёнаў рублёў. Яшчэ набылі планшэт, таксама за пяць мільёнаў. Усё выбіралі доўга і складана, бо якасць адзення часта падводзіла. Летам добра адпачыла – якраз вярнулася з гісторыка-археалагічнага летніка "Кентаўры". Больш нікуды не ездзіла, дапамагала маме. Пра паступленне ўжо думаю. Хацела б стаць юрыстам ці перакладчыцай. Сёлета ў мяне адказны год, напрыканцы экзамены. Таму пастараюся паглыбіць веды, даведацца як мага больш. Мне вельмі падабаецца гісторыя Беларусі, гісторыя свайго краю.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Маладыя спецыялісты: "Педагагічная дзейнасць...ммм...заманлівая"

МАЛАДЗЕЧНА

**Вольга Федзіна і Анастасія Сівіцкая (фота на 1-й старонцы) сёлета скончылі Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт па спецыяльнасці "Выкладчык нямецкай мовы". Іх, дзвюх сябровак-аднакурсніц, накіравалі па размеркаванні ў гімназію №10.**

Напярэдадні 1 верасня дзяўчаты расказалі, чаго чакаюць ад свайго новага статуса – настаўнік.

Анастасія: – Я ўсім расказваю, што працую настаўніцай, але ўрока пакуль яшчэ ні аднаго не правяла. Практыка ў пачатковых класах – гэта не тое. Тут жа мне давераць 5 і 8 класы. Страшна.

Вольга: – Быць педагогам, выкладаць – гэта так заманліва. Тым больш у гімназіі. Давядзецца працаваць і над сабой у тым ліку. А чаго чакаю ад працы? Напэўна, дапамогі ад старэйшых калег і аддачы ад дзяцей.

Ці скончыцца педагагічная дзейнасць дзяўчат пасля абавязковага размеркавання, яны не ведаюць. Не хочуць загадваць наперад. Але ў адзін голас адказваюць: "Усё самае лепшае яшчэ наперадзе".

**Наталля ТУР.**

АДУКАЦЫЯ

## Школы плануюць перавесці на самафінансаванне

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра гэта распавёў старшыня Маладзечанскага райвыканкама Аляксандр Яхнавец падчас раённага сходу дэпутатаў мясцовых Саветаў 25 жніўня.**

Сёлетні навучальны год на ўмовах самафінансавання пачынаюць маладзечанскія гімназіі №6 і №10.

Як распавяла загадчыца сектара фінансава-гаспадарчай і арганізацыйна-кадравай работы аддзела адукацыі **Юлія Бахар**, досвед такой працы ўжо маюць гімназія-каледж мастацтваў і Радашкавіцкая школа-інтэрнат.

Такая сістэма дазваляць установе адукацыі эканоміць сродкі, а пасля распараджацца імі так, як лічыць найбольш мэтазгодным.

Аблвыканкам мяркуе ў далейшым распаўсюдзіць самафінансаванне і на іншыя школы.

**Аддзел інфармацыі.**

НАШЫ ГРОШЫ

# Колькі “чарак-скварак” могуць дазволіць сабе жыхары рэгіёна

**Сёлета ў сакавіку ў Беларусі ўпершыню група экспертаў Беларускага інстытута рэформы і трансфармацыі публічнага адміністравання (BIPART) прадставіла індэкс “ЧаркіСкваркі”.**




За аснову аўтары даследавання ўзялі кошт стандартнай чаркі гарэлкі і 100 грамаў свініны. У гэтай “валюце” яны пералічылі зарплаты насельніцтва і паглядзелі, колькі чарак і скварак могуць дазволіць сабе беларусы на сярэдні заробак.

– Айчынны індэкс “ЧаркіСкваркі” не звязаны з імпартнымі прадуктамі. Ён беларускі на ўсе 100 працэнтаў, – падкрэслівае кіраўнік спецыяльнага праекта “Кошт Урада” **Уладзімір Кавалкін.**

З дапамогай індэкса “ЧаркаСкварка” можна даведацца, ці з’яўляецца справядлівай цяперашняя цана беларускага рубля, завышаная яна ці заніжаная. Можна таксама паглядзець, наколькі абясцэніўся беларускі рубель.

– Увогуле, “ЧаркаСкварка” для нас – гэта самая цвёрдая і зразумелая валюта на фоне рубля, які пастаянна абясцэньваецца – упэўнены Уладзімір Кавалкін.

На рынку ў сераду, 26 жніўня, кілаграм свініны каштаваў 80 тысяч рублёў. Бутэлька гарэлкі – каля 70 000.

Індэкс “ЧаркіСкваркі” такім чынам складае 22 тысячы рублёў.

Такім чынам, найбольшую колькасць “ЧаракСкварак” могуць дазволіць сабе жыхары Астраўца.

**Наталля ТУР.**

ТРАНСПАРТ

# У Вілейцы мяняюць расклад і ўводзяць новыя прыпынкі

ВІЛЕЙКА

**Ад 27 жніўня карэкціруюць расклад руху гарадскіх аўтобусаў у Вілейцы. Змяненні закранаюць усе маршруты.**

– Доўгі час расклад не змяняўся. І так атрымлівалася, што на некаторых прыпынках аўтобусы ішлі адзін за адным. Да таго ж, з’явіліся новыя прыпынкі, тлумачыць дырэктар аўтапарка №5 Мінаблаўтатранса **Аляксандр Рогач**. – Цяпер час адпраўлення на асобных прыпынках зменіцца на тры-чатыры хвіліны. Новы расклад пастараліся падстроіць пад рэжым працы прадпрыемстваў, школ.

Зробленыя новыя шыльды з раскладам. Яны з буйнейшым шрыфтам, чым было раней – для зручнасці тых, хто слаба бачыць.

Таксама ад 27 жніўня ўключаныя ў маршрут два новыя прыпынкі: “Вуліца 8 Сакавіка” і за ім – “Вуліца Ведаў”. Уладкаваныя яны каля мікрараёна “Паўночны”.

– Зроблена гэта для зручнасці людзей, – кажа Аляксандр Рогач. – У мікрараёне “Паўночны” будуць працягваць будаваць дамы. У будучым плануюць зрабіць аб’язную дарогу і наладзіць рух аўтобуса вакол мікрараёна.

Прыпынак “Вуліца Ведаў” стане канцавым – раней ім быў “Валынца”. Аўтобус тут будзе развapочвацца і працягне рух у цэнтр горада.

Ад “Вуліцы Ведаў” аўтобус па маршруце №3 будзе адпраўляцца штодня ў 6:25, 7:29, 8:45, 9:55, 11:19, 12:20, 13:25, 14:45, 15:49, 16:59, 18:08, 19:18, 20:28, 21:38. А ў будныя дні дадаткова будуць яшчэ рэйсы ў 6:57, 8:08, 9:20, 10:30, 17:29, 18:41.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

МАХЛЯРСТВА

# Абяцаў дапамагчы купіць аўтамабілі і знік з валютай

МЯДЗЕЛ

Мядзельскі раённы аддзел Следчага камітэта расследуе крымінальную справу аб махлярстве ў асабліва буйным памеры ў дачыненні да грамадзяніна Рэспублікі Украіна.

Ад чэрвеня 2014 да мая 2015 года 51-гадовы мужчына жыў на Мядзельшчыне. Абяцаў мясцовым жыхарам сваё садзейнічанне ў выгаднай куплі і дастаўцы аўтамабіляў.

– Шэсць жыхароў Мядзельскага раёна спрабавалі з дапамогай мужчыны набыць аўтамабілі ў Літве і перадалі апошняму грошы, – расказала афіцыйны прадстаўнік Упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**. – Па заканчэнні абумоўленага тэрміну той не выканаў узятыя на сябе абавязацельствы. Завалодаў грашыма грамадзян на суму не менш за 45500 долараў ЗША, 11000 еўра, 16000 расійскіх рублёў.

Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства адшукваецца Аляксандр Пяткоў, 11.03.1964 года нараджэння.

Хто мае інфармацыю пра гэтага мужчыну, просьба паведаміць следству па нумарах:

**8 (01797) 5-06-77,**
**8 (01797) 5-51-56**
**або 102.**




Аляксандр Пяткоў знік з валютай.

**Аддзел інфармацыі.**

| Курсы валют НБ РБ | 20.08 | 27.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 16 423,00 | **17 700,00** |
| Еўра | 18 198,00 | **20 356,00** |
| Злоты | 4 330,19 | **4 875,69** |
| Расійскі рубель | 249,93 | **255,13** |
| Грыўня | 735,70 | **784,00** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 26.08** | | |
| Еўра | 18050/18500 | **20300/20880** |
| Долар ЗША | 16350/16600 | **17650/17950** |

Цэны на рынку (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 19.08 | 26.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139 900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53800 | **57 000** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **29 100** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 95000 | **95 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37900 | **38 000** |
| Селядзец, 1 кг | 54000 | **41 900** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 118000 | **129 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **13 800** |
| Грэчка, 0,8 кг | 14000 | **14 500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12000 | **12 000** |
| Алей “Дзіўны”, 1 л | 19500 | **22 000** |
| Маянэз, 200 г | 5000 | **5 000** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 14500 | **14 500** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 39500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12 500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6900 | **7 000** |
| Капуста, 1 кг | 4500 | **5 000** |
| Морква, 1 кг | 6900 | **7 000** |
| Баклажаны, 1 кг | - | **13 000** |
| Лімоны, 1 кг | 38500 | **35 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 26900 | **25 000** |
| Мандарыны, 1 кг | 26500 | **27 000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 27500 | **32 000** |
| Ківі, 1 кг | 39900 | **39 000** |
| Нектарыны, 1 кг | 16900 | **20 000** |
| Абрыкосы, 1 кг | 23500 | **26 000** |
| Памідоры, 1 кг | 7900 | **6 500** |
| Агуркі, 1 кг | 4900 | **6 500** |
| Перац, 1 кг | 11900 | **12 500** |
| Вінаград, 1 кг | 34900 | **30 000** |
| Бананы, 1 кг | 11900 | **14 500** |
| Кавун, 1 кг | 5500 | **5 000** |
| Дыня (“тарпеда”), 1кг | 11000 | **8 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 9900 | **10 500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 14900 | **16 500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15 000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55 000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 3500 | **4 000** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **140 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **22 000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55 000** |

● "ПРАМАЯ ЛІНІЯ"

# Пра заробкі, аварыі і рамонт мэблі гаварылі на сустрэчы з генералам МУС

МАЛАДЗЕЧНА

**Выязны прыём грамадзян па асабістых пытаннях правёў начальнік упраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама Ігар Яўсееў у Маладзечне 20 жніўня.**

За дзень прыёму да Ігара Яўсеева запісаліся на прыём 13 маладзечанцаў. Пытанні, якія яны спрабавалі вырашыць, былі самыя розныя.

Нехта прыйшоў прасіць дапамогі ў вырашэнні спрэчнага пытання ў ДТЗ. Пыталіся, чаму не выплачваюць своечасова заробак, і накont канапы, якую нядобрасумленна перацягнулі ў адной з фірмаў.

Як сказаў Ігар Яўсееў, некаторыя пытанні вырашылі на месцы, па некаторых прызначылі адказных і тэрміны, у якія павінны быць вырашаны праблемы грамадзян.

Тыя, што знаходзяцца не ў кампетэнцыі ўнутраных органаў, параілі перанакіраваць туды, дзе іх вырашаць.

– Справу па фінансава-гаспадарчай дзейнасці аднаго з маладзечанскіх прадпрыемстваў я ўзяў пад асабісты кантроль. Буду высвятляць, ці ёсць падставы заводзіць адміністрацыйную ці крымінальную справу на гэтым прадпрыемстве, – адзначыў Ігар Яўсееў.

Начальнік упраўлення задаволены тым, што ніводнага наракання на працу Маладзечанскага РАУС у грамадзян не было.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

Начальнік упраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама генерал-маёр міліцыі Ігар Яўсееў.

**Даведка "РГ":** Ігару Яўсееву 47 гадоў. Нарадзіўся ў Ваўкавыскім раёне. Скончыў Пружанскі сельгастэхнікум. Быў начальнікам упраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі УУС на транспарце, кіраваў Віцебскім УУС. Ад 2015 года – начальнік упраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама.

● СЛУЖБА 101

## Жанчына згарэла з-за непатушанай цыгарэты

ВАЛОЖЫН

**Здарэнне адбылося 18 жніўня ў вёсцы Лужаны Дорскага сельсавета Валожынскага раёна.**

У службу выратавання паступіла паведамленне, што гарыць аднапавярховы драўляны жылы дом. У выніку пажару агнём знішчаны дах, пашкоджаны сцены, перагародкі, столь, аконныя і дзвярныя праёмы. Маёмасць, якая была ў доме, знішчаная.

У жылым пакоі на ложку знойдзены труп сужыцельніцы гаспадара, 57-гадовай жанчыны.

Гаспадар дома расказаў выратавальнікам, што раніцай гэтага дня яны разам паехалі ў Валожын па пенсію, пасля чаго распівалі спіртныя напоі.

Вярнуліся ў Лужаны прыкладна ў 11 гадзін. Паабедаўшы, ляглі спаць. Каля 20 гадзін гаспадар прачнуўся і выйшаў на вуліцу. Вяртаючыся ў дом, ён заўважыў у акне агонь. Веранда была зачыненая знутры. Разбіўшы акно, спрабаваў тушыць агонь вадой.

Падчас агляду ўстаноўлена, што найбольшыя тэрмічныя пашкоджанні ў жылым пакоі былі каля загінулай. Слядоў электрычнай праводкі ў дадзеным месцы няма.

Гэта значыць, што найбольш верагодная прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні загінулай.

– Больш за тое, як расказаў выратавальнікам гаспадар дома, гэты выпадак не першы, калі з-за курэння загінулай у доме гарэлі пасцельныя прыналежнасці, – патлумачыў "Рэгіянальнай газеце" старшы інспектар інспекцыі нагляду і прапаганды Валожынскага РАНС **Алег Калітнік.**

**Наталля ТУР.**

● КРЫМІНАЛ

## У Маладзечне жанчына скрала грошы і схавала іх у пад'ездзе

МАЛАДЗЕЧНА

20 жніўня ў міліцыю звярнуўся 25-гадовы маладзечанец і паведаміў, што ў яго з кватэры скралі 2 100 долараў і 300 еўра.

Малады мужчына жыве ў пакоі, які наймае, разам з жонкай і маленькім дзіцем.

Да гаспадыні кватэры час ад часу прыходзіла ў госці сяброўка, 25-гадовая жанчына.

У той дзень яна заўважыла, што гаспадароў пакоя дома няма. Зайшла да іх і забрала з каробачкі грошы.

Схавала іх у пад'ездзе.

Праз некаторы час гаспадар пакоя заўважыў, што грошы з каробачкі зніклі. Тут жа выклікаў міліцыю.

Аператыўныя супрацоўнікі на месцы апыталі ўсіх, хто быў у кватэры. Сяброўка гаспадыні кватэры прызналася ў тым, што гэта яна скрала грошы.

– Частку скрадзенага вярнулі гаспадарам. Вядзецца следства, – паведаміў "Рэгіянальнай газеце" следчы Маладзечанскага райаддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч.**

## У жыхара Цюрлёў з сейфа скралі вялікую суму грошай

МАЛАДЗЕЧНА

23 жніўня невядомы злачынца праз незачынены падвал пракраўся ў дом 47-гадовага жыхара вёскі Цюрлі.

З сейфа скраў 10 000 долараў, 5 000 еўра, 18 мільёнаў беларускіх рублёў і 250 тысяч расійскіх рублёў.

Вядзецца следства, паведамляецца на сайце ўпраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама.

**Наталля ТУР.**

● КРАДЕЖ

## Крымінальная гісторыя адной цыркулярнай пілы

ВАЛОЖЫН

**За адны суткі пілу купілі, скралі, прадалі, заявілі ў міліцыю і затрымалі злодзея.**

Гэта гісторыя здарылася ў пачатку жніўня ў вёсцы Зарэчча, што на Валожыншчыне.

Жыхары Мінска, у якіх лецішча ў Зарэччы, купілі новую пілу і прывезлі яе ў Зарэчча.

У гэты ж дзень іх сусед, які нідзе не працуе, прыйшоў у госці. Заўважыў пакупку, якая, дарэчы, каштавала два мільёны рублёў. Вечарам таго ж дня вярнуўся ў дом да суседзяў і скраў інструмент.

Назаўтра ячшэ адным жыхарам той жа вёскі прадаў цыркулярку за 600 тысяч рублёў.

Гаспадары пілы хутка выявілі прапажу і паведамілі пра гэта ў міліцыю. Злодзея затрымалі.

За гэту "здзелку" жыхару Зарэчча пагражае да чатырох гадоў пазбаўлення волі, расказаў "Рэгіянальнай газеце" следчы Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта **Ілля Глінскі.**

**Наталля ТУР.**

● СЛУЖБЫ

## Як не стаць ахвярай злачынства на чыгунцы і што рабіць, калі сталі

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскае аддзяленне ўнутраных спраў на транспарце ад 25 да 29 жніўня праводзіць комплекснае прафілактычнае мерапрыемства "Пасажыр".

Яно накіраванае на прафілактыку правапарушэнняў і злачынстваў у цягніках і на станцыях, на забеспячэнне асабістай і маёмаснай бяспекі.

**Парады, як не стаць ахвярай злачынства ў цягніку:**

- каштоўныя рэчы захоўвайце пры сабе
- не пакідайце маёмасць без нагляду
- не перадавайце рэчы незнаёмым людзям
- не піце спіртное ў цягніку ці электрычцы
- не давайце мабільны тэлефон незнаёмым
- не спіце падчас руху, калі маеце пры сабе грошы ці каштоўныя рэчы.

Калі вы сталі ахвярай ці сведкай злачынства на чыгунцы, просім звярнуцца ў аператыўна-дзяжурную службу Маладзечанскага АУС на транспарце па тэлефонах:

**(80176) 77-09-86, 74-24-16, ці па нумары 102.**

**Тацццяна СУБАЧ, старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі, Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце.**

## ДАІ праводзіць акцыі для бяспекі школьнікаў

МАЛАДЗЕЧНА

Да пачатку навучальнага года ДАІ Беларусі ад 25 жніўня да 5 верасня ладзіць спецыяльнае комплекснае мерапрыемства пад дэвізам "Увага! Дзеці". Яго мэта – прафілактыка дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму.

Пераканаўча просім кіроўцаў у светлы час сутак ездзіць з уключанымі бліжнімі фарамі ці дзённымі хадавымі агнямі, калі яны ёсць. Будзьце вельмі ўважлівыя і асцярожныя.

Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці 28 жніўня праводзіць адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам "Першы і галоўны ўрок – бяспека!"

Міліцыянеры правядуць гутаркі ў працоўных калектывах і арганізацыях, звяртаючы ўвагу на неабходнасць уключаць фары.

Ад 31 жніўня да 6 верасня ДАІ Маладзечна праводзіць "Тыдзень бяспечнага руху". Яго прысвячаюць пачатку навучальнага года.

Супрацоўнікі інспекцыі выступяць на лінейках, правядуць рэйды, каб знайсці парушэнні правілаў дарожнага руху дзецьмі.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ.**




Фота забяспечана Аляксандрам САЛАГУБАМ.

У беларускім Парыжы. Аляксандр Салагуб стаіць першы справа.

РЭЧЫ І ЛЮДЗІ

# Аляксандр Салагуб: "Майму ровару "Старт-шаша" ужо 55 гадоў"

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра "юбілей" свайго двухколага сябра расказаў "Рэгіянальнай газеце" яе пастаянны чытач маладзечанец Аляксандр Салагуб.**

Да ўсялякіх рэчаў прывыкаеш, беражэш і ўжо проста не можаш расстацца. Ровар сярод іх не выключэнне. Нехта скажа: "Знайшлі пра што гаварыць". Так, але менавіта з ім звязаная немалая частка жыцця героя гэтай публікацыі.

– Гэта было ў Данбасе (Украіна), – пачынае свой аповед Аляксандр Аляксандравіч. – Пасля службы ў войску ў 1958 годзе зноў пайшоў працаваць на вугальную шахту, якая знаходзілася ў трох кіламетрах на захад ад чыгуначнай станцыі Сталіна. Наступная – Данецк.

Неяк сябра, з якім жыў разам у інтэрнаце, запрасіў пахадзіць у велаклуб пры горным тэхнікуме, дзе ён вучыўся. Там якраз пачыналіся заняткі, у якія ўваходзілі тэорыя, трэніроўкі на стэндах і выезды на дарогі. І Аляксандру спадабалася быць велаcпартсменам. Ды толькі праца ў шахце забірала шмат фізічных сіл і энергіі. Якраз тады працаваў горнарабочым ачышчальнага забою, так званым ГРОЗ. І яму давялося пакінуць велаклуб.

Навучыўся катацца на ровары Аляксандр Салагуб яшчэ ў дзяцінстве, якое прайшло ў Францыі. У бацькі і маці былі ровары – мужчынскі і жаночы, у маці яшчэ з перадачамі.

**І вось летам 1960 года ён купіў сабе спартыўны ровар за 115 савецкіх рублёў. Вельмі добрыя каштавалі тады па 145 рублёў. Гэта былі на той час вялікія грошы. Для параўнання, ён атрымліваў 300-350 рублёў, бо працаваў шахцёрам, а звычайныя людзі – па 100-120 рублёў. Гэта было шчасце.**

У 1964 годзе, 28 студзеня, якраз на дзень нараджэння маці, Аляксандр Салагуб пераехаў у Маладзечна. Бацькі тут ужо жылі чатыры гады на сваёй бацькаўшчыне ў Кавалях за Вілейкай. Ровар, вядома, прывёз з сабой.

Тут пачаў сябраваць з заядлымі велаcіпедыстамі-аматарамі **Анатолем Бараном**, які працаваў качагарам, і токарам **Пятром Леўчанкам**. Разам яны ездзілі у грыбы-ягады ў Самалі, Чарчонава, Даманова, Хажова, за Лебедзева ў Кучкі ў маліну, на розныя іншыя мерапрыемствы.

– Колькі ж кіламетраў накруціў я на гэтым ровары?! – кажа герой аповеду. – Дзякуючы яму наведваў Кавалі. Вазіў мяне двухколы сябар у Беразінскае і вёску Груздава, у якой жылі бацькі маёй жонкі Кацярыны, у Насілава, каб праведаць стрыечных братоў, Ласі, дзе наша лецішча. Катаўся ў школьныя гады на ім і мой сын, Аляксандр.

А самае вялікае задавальненне я атрымаў, калі мяне запрасіў турклуб "Пілігрым" пракаціцца ў Парыж. Так-так, Парыж, толькі ў той, што на Пастаўшчыне. Такую назву паселішчу даў у 1812 годзе імператар Банапарт.

Увогуле слова "Парыж" выклікае ў яго прыемныя ўспаміны. Яны вяртаюць яго ў перыяд дзяцінства, калі жыў у Францыі, у горадзе Алес, да 14 гадоў. Там засталіся яго сябры, знаёмыя. І цяпер яшчэ па запрашэнні наведвае тую далёкую краіну.

– Вязе мой ровар і на могілкі, дзе ляжаць дарагія мне людзі, – кажа Сан Саныч, так яго яшчэ клічуць. – А летась, на вялікі жаль, перасялілася туды і мая жонка.

**Праўлю магілкі, думаю пра тых, хто адышоў у іншы свет, і пра тое: "Ну, што б я рабіў без майго сябра".**

Я ў свае паважаныя гады без яго, як без рук. Служыць ён мне ўжо 55 гадоў бездакорна. Здаралася, канешне, міняў дэталі. Але цяпер усё працуе спраўна. Можна толькі падзякаваць Харкаўскаму веласіпеднаму заводу за якасную прадукцыю.

Марыя БЕРАСНЕВА.

СВЯТЫ

# Вёска з 14 жыхароў сабрала больш за сто гасцей

ВІЛЕЙКА

**Напрыканцы жніўня свята вёскі завітала ў невялікую вёсачку Панкраты Даўгінаўскага сельсавета – разам з творчым калектывам Язненскага сельскага Дома культуры.**



Фота забяспечана аўтаркамі.

Вядучая свята Марыя Хасяневіч.

Свята распачаў старшыня Даўгінаўскага сельвыканкама **Аляксандр Маліноўскі**. Ён звярнуўся да вяскоўцаў з цёплымі словамі прывітання і падарункамі ўладальнікам найбольш добраўпарадкаваных сядзіб. Імі на гэты раз сталі сем'і **Кратовічаў** і **Жыжлаў**.

Вядучая свята **Марыя Хасяневіч** прыгадала гісторыю вёскі, якая вядзе свой адлік з далёкага 1800 года ў складзе маёнтка Будслаў. Нагадала імёны ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, герояў працы, аб'явіла хвіліну маўчання па тых, якія пайшлі з жыцця.

На імправізаваную сцэну, якую змайстравалі і ўпрыгожылі жыхары вёскі, запрашаліся самы сталы жыхар Панкратаў **Станіслаў Іосіфавіч Зялёнка** (86 год) і самая маленькая жыхарка **Васіліса Хамякова** (2 гадзікі), юбіляры 2015 года, іменіннікі жніўня, сямейныя пары, якія адзначылі юбілеі вяселляў... Яны атрымоўвалі сціплыя падарункі ад работнікаў Язненскага СДК і музычныя віншаванні самадзейных артыстаў. Пад кіраўніцтвам культработнікаў **Алены Святохі** і **Аксаны Язневіч** мілагучныя песні і эстрадныя хіты прапанавалі гледачам **Канстанцін Машынскі**, **Ганна Шунейка**, **Пётр Вайцяшонак**, **Таццяна Зубель**, **Максім Кароль**.

Члены валанцёрскага руху "Ружа вятроў" прыехалі павіншаваць са святам жыхароў вёскі Панкраты, якім споўнілася 80 і болей гадоў. Прыехалі са святочнымі прысмакамі, падарункамі, прыгожымі песнямі і вершамі.

Калі вядучая прапанавала слова самім гледачам, то свята зайграла новымі фарбамі. **Эдмунд Трусевіч** звярнуўся са словамі віншавання да людзей, з якімі шмат год побач жыў і працаваў, а затым так ліха заспяваў песню з рэпертуару Гнацюка, як быццам сам знакаміты спявак завітаў на свята! А за дзедам і ўнучкі **Івона Паўлоўская**, і зусім юная чатырохгадовая Міла прадэманстравалі свае таленты.

Жанчыны са сталіцы вельмі пранікнёна, са слязьмі на вачах, падзякавалі землякам за догляд магілак родзічаў, за тое, што вёска жыве і радуе іх, былых дзяцей, а зараз гарадскіх дачнікаў, кожнае лета.

### Што ў "чорнай скрыні"?

Сапраўдны інтрыгай свята стаў розыгрыш "чорнай скрыні". Прыгожае блюда з лагатыпам свята ў Панкратах застанецца на памяць госцю свята **Алегу Дзевятню** і яго сям'і.

**Сувенір пайшоў з аўкцыёну ў чатыры разы даражэй за першапачатковую цану!**

Цяпер у Панкратах пастаянна жыве 14 чалавек, але за святочным сталом сабралася больш за сто гасцей! Да глыбокай ночы цягнуліся шчырыя размовы і ўспаміны паміж землякамі, якія даўно не бачыліся, гучала музыка, песні, кружыла пары вясковая дыскатэка... Тых жа, хто любіць спакойны, інтэлектуальны адпачынак, прывабіў куток бібліятэкаркі **Іны Лісіцы** з навінкамі кніг і перыядычнага друку.

Яшчэ адно свята вёскі ўвайшло ў гісторыю Язненскага СДК. І здаецца, што яно было найлепшым. А адбываецца гэта дзякуючы спалучэнню майстэрства самадзейных артыстаў і энтузіязму, гасціннасці і шчырасці вясковых жыхароў і іх гасцей. Вялікі дзякуй ім за гэта! А цёплыя ўспаміны аб той жнівеньскай суботе і шматлікія фотаздымкі свята ў Панкратах яшчэ вельмі доўгі час будуць саграваць сэрцы землякоў у розных куточках нашай Беларусі і далёка за яе межамі!

**Іна ЛІСІЦА,**
**бібліятэкарка Язненскай сельскай бібліятэкі,**
**Таццяна ЗУБЕЛЬ,**
**удзельніца мастацкай самадзейнасці.**




Іван Ісаеў з Масквы прыехаў паўдзельнічаць у рэканструкцыі і пасняваць казацкія песні.

ЗАХАПЛЕННІ

# Стрэлы, выбухі і спецназ

## На Мядзельшчыне паказалі рэканструкцыю баёў Першай сусветнай

МЯДЗЕЛ

**– Я не думаў, што на вайне так гучна было: аж вушы затыкаў. Па тэлевізары не тое, – здзіўляўся адзін з юных гледачоў.**

На Мядзельшчыне 22 жніўня гучалі магутныя выбухі і стрэлы, узляталі ў неба клубы дыму і гарэлі пабудовы. Гэтак ля вёскі Пасынкі ў другі раз праходзіла ваенна-гістарычная рэканструкцыя “Нарачанскі набат”.

Сёлета яе праграма была шырэйшая. Адразу прайшоў канцэрт: спяваў ансамбль казацкай песні “Гуляй, казак!”. Выступілі з паказальным выступленнем байцы пятай асобнай брыгады спецыяльнага прызначэння. Крышылі цагліны аб галовы, трымалі зубамі табурэтку з гірай – рабілі ўсё, каб гледачы ацанілі іх моц і цягавітасць.

Потым пачалася галоўная падзея: паказалі рэканструкцыю эпізоду Першай сусветнай вайны. Тычыліся яны ліквідацыі Свянцянскага прарыву і ўстанаўлення лініі фронту на Мядзельшчыне. Ішлі ў дыме ў наступленне рускія салдаты, абараняліся нямецкія. Тут жа выцягвалі з поля бою “параненых” і аказвалі дапамогу ў палявым шпіталі.

### Ужыванне ў вобраз праз вайсковую рэканструкцыю

Вёў у “бой” рускія войскі мастак **Барыс Цітовіч** з Заброддзя на Вілейшчыне.

– Трошкі пакамандаваў, можна было б яшчэ паваяваць, – усміхаецца.

– Рэканструктары – гэта такія людзі, што не толькі форму і вопратку апранулі і ходзяць, – разважае ён. – Сапраўдныя рэканструктары вывучаюць гісторыю, яны набліжаюцца да традыцый Рускай імператарскай арміі, у якой служылі не толькі рускія, а і людзі розных нацыянальнасцяў і канфесій. А тут ідзе ўжыванне ў вобраз праз вайсковую рэканструкцыю. З боку глядзіш: здаецца, трошкі пабегалі. На самой справе, паспрабуйце пабегаць пад гэтым дымам, пад гэтай страляніной. Вось тады і па-сапраўднаму разумееш, якое яно жыццё было – вайсковае.

Лічыць Барыс Цітовіч, што такія мерапрыемствы карысныя і для людзей, і для дзяржавы, і для рэанімацыі гісторыі:

– За мяжой нашчадкі тых, хто ваяваў у напалеонаўскую кампанію ці ў Першую сусветную вайну, не саромеюцца апрануць форму, ладзяць мерапрыемствы. А ў нас гэта пакуль слаба развіта.

### Рэканструктары пажылыя і юныя

Пасля “баёў” гледачы спяшаліся да рэканструктараў: сфатаграфавацца разам, патрымаць зброю. А тыя абмяркоўвалі падзеі “бою” ды самі рабілі здымак на памяць.

– Сёлета і ўдзельнікаў, і гледачоў больш, – параўноўвае з леташняй рэканструкцыяй адзін з яе ініцыятараў гісторык **Сяргей Захараў**. – І якасна мерапрыемства вырасла. Той жа ўзровень піратэхнікі нашмат лепшы.

Калі летась удзельнічалі прадстаўнікі клубаў ваенна-гістарычнай рэканструкцыі толькі з Беларусі, то сёлета да іх далучыліся расіяне. Прыехалі яны з Масквы, Калінінградскай вобласці, іншых месцаў. **Іван Ісаеў** з Масквы пасля заканчэння рэканструкцыі прысеў на лавачку і спяваў казацкія песні.

– Я спяваю ў казацкім хоры. І на прывале буду пець абавязкова.

Сярод дарослых трапляліся юныя рэканструктары: 11-гадовы Мікіта прыехаў з Мыцішчаў:

– Гэта ўжо мая чацвертая рэканструкцыя. Тут упершыню ўбачыў траншэі і доты, якія засталіся з Першай сусветнай.

У ранейшых строях на свяце хадзілі не толькі ўдзельнікі рэканструкцыі. Юлія з дачкой Марыяй прыехалі з Вялікага Ноўгарада. Яны апрануліся ў строі гараджанак стогадовай даўніны.

– Муж удзельнічае ў рэканструкцыі, – патлумачыла Юлія. – Вось Марыя праводзіла тату на вайну і ідзе сустракаць. Мы даўнія ўдзельнікі рэканструкцыі, усё гэта прапускаем праз сябе. Лічу, што сёння ўсё ўдалося.

Другі год паглядзець на рэканструкцыю прыязджаюць не толькі жыхары Мядзельшчыны. **Андрэй Шчуко** з Ушацкага раёна сёлета прыехаў упершыню. Спадабалася: сказаў, што і ў наступны раз абавязкова завітае, а яшчэ сяброў з сабой прывязе.



Алесь ВЫСОЦКІ
E-mail: alvy@tut.by

ВЫСТАВЫ

# У Вілейцы паказваюць калекцыю філатэліі

ВІЛЕЙКА

**У працяг праекта “Тыдзень калекцыянера” Вілейскі краязнаўчы музей прапануе пазнаёміцца з цікавай калекцыяй філатэліі.**

Сапраўднымі заканадаўцамі мод у паштовай справе лічацца англічане. Менавіта ў Англіі з’явіліся першыя канверт і марка.

Раней лісты пісалі на паперы рознага фармату. І вось стала модна выкарыстоўваць для перапіскі паперу фармату візітнай карткі. Але “візіткі” былі не зусім зручныя, таму што “ліст” трэба было складаць у выглядзе пакеціка, на чыстай старонцы якога пісаўся адрасат.

### Як “пакеты містэра Брэвера” сталі канвертамі

У 1820 годзе ўладальнік крамы, дзе прадавалася папера, у англійскім горадзе Брайтане містэр Брэвер прыдумаў спецыяльныя пакеты. Спачатку ён зрабіў невялікую партыю такіх пакетаў і раздаваў у выглядзе бясплатнага дадатку пры набыцці паперы. Навінка прыйшлася даспадобы, і ўсе хацелі адпраўляць свае лісты ў “пакетах містэра Брэвера”. Містэр Брэвер даручыў вырабляць паштовыя пакеты дванаццаці спецыяльным прадпрыемствам. Ён нават вынайшаў машыну для вырабу канвертаў. А крыху пазней “пакеты містэра Брэвера” сталі называцца “канвертамі” ад англійскага слова “to cover” – закрываць. Праз некаторы час ідэя першапачаткова праклейваць канверт прыйшла да француза Пуар’е.

У канцы 19 стагоддзя англічане ўвялі ў моду рознакаляровую паштовую паперу, афарбоўка якой павінна адпавядаць дню тыдня.

Прыкладна ў той жа час у Парыжы становіцца распаўсюджаным каляровая папера з маленькай манаграмай. Надзвычай модным лічыцца запячатваць лісты белым сургучом. У кошт канверта ўключаўся і кошт паштовай дастаўкі. Так з’яўляюцца канверты са штэмпелямі.

На тэрыторыі Расіі першыя канверты са штэмпелямі з’явіліся ў 1845 годзе. У 1848 годзе ў Маскве і Санкт-Пецярбургу з’яўляюцца паштовыя скрыні. Цяпер для таго каб адправіць ліст, не трэба ісці на паштамт або звяртацца да лавачніка.

На змену штэмпелю, знака паштовай аплаты, прыходзяць маляўнічыя паштовыя мініяцюры – маркі. У 1840 годзе парламент Англіі прыняў прапанову **Роўлена Хіла** аб увядзенні ў паштовую практыку спецыяльных марак.

Практычна адначасова са з’яўленнем паштовых марак з’явіліся людзі, якія сталі іх калекцыянаваць. Першапачатковая схільнасць да калекцыянавання паштовых марак называлі “тэмбрафіліяй”, або “тэмбралогіяй”, а крыху пазней – “маркаманіяй”. У лістападзе 1864 года з’явіўся артыкул вядомага калекцыянера **Жоржа Эрпена**. Ён прапанаваў тэрмін – “філатэлія”. Пад гэтым словам Эрпен меў на ўвазе любоў да вывучэння ўсяго, што адносіцца да паштовых марак: марак, канвертаў, штэмпеляў.

Выстава праходзіць у зале выстаў імя Сілівановіча.

**Надзея АЎДЗЕЙ,**
**навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.**

**Даведка “РГ”.** Філатэлія – калекцыянаванне знакаў паштовай аплаты.

ЭКСКУРСІІ

# Пабачылі Нарач і дакрануліся да гісторыі

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

Экскурсію для маладых спецыялістаў наладзіў 22 жніўня Мядзельскі райвыканкам. Удзельнічалі ў ёй хлопцы і дзяўчаты, якія працуюць у сельскай гаспадарцы, адукацыі, медыцыне. Удзельнікі праехалі вакол возера Нарач, пабывалі на комплексе “Партызанскія базы”, у экацэнтры Нацыянальнага парку “Нарачанскі”. Прызнаваліся потым, што найбольш уразіў этнакультурны комплекс “Наносы-Наваселле”. Там пакаштавалі спечанага па старадаўнім рэцэпце хлеба, хто і коней пагладзіў.

Завяршылася экскурсія на ваенна-гістарычнай рэканструкцыі “Нарачанскі набат”.

**Ніна Дамеенка** з Вілейкі ўсю паездку не расставалася з фотаапаратам. Яна толькі трэці тыдзень працуе ў мясцовым аддзеле адукацыі, спорту і турызму і вельмі рада знаёмству з месцам, дзе будзе жыць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




# “Мы прыехалі на святое месца, дзе косці расстралянага бацькі”

Тадэвуш Козел-Паклеўскі.

ВІЛЕЙКА

**Тут забілі яго бацьку, яму давялося ўцякаць у Вільню, дзе страціў вока, а пасля паехаў у Польшчу, дзе і ў 83 гады не спыняе працу. Тадэвуш Козел-Паклеўскі гэтым летам наведаў родныя мясціны разам з усёй вялікай сям'ёй.**

Ён не мог не прыехаць, таму што тут “святое месца”. Нягледзячы на тое, што паездка была няпростай фізічна.

*– За два тыдні да выезду мне далі кардыёстымулятар. А за дзень я паўдня быў у бальніцы, каб зрабілі рэгуліроўку, але ўсё ж дазволілі ехаць, –* усміхаецца **Тадэвуш**. *– Я пачаў працаваць у лютым 1950 года, і цяпер працую, у 83 гады. Думаю, што яшчэ ёсць работы на некалькі год, яшчэ ўсё не закончыў. Самая лепшая фармакалогія – працаваць, не зніжаць дынаміку жыцця.*

З таго часу, як сям'я Козелаў-Паклеўскіх з'ехала з Беларусі ў 1939-м, Тадэвуш упершыню вярнуўся ў 1997 годзе. Яго запрасілі калегі археолагі і гісторыкі, адзін з іх – **Ігар Чарняўскі**. Тады разам з сястрой ён паехаў у Людвінова, Кастыкі, Сэрвач, Касцяневічы – тыя мясціны, ад успамінаў пра якія шчымліва на душы.

Сямейную экскурсію зладзілі і па Сібіры. У горадзе Таліца нарадзіўся бацька нашага суразмоўцы і яго браты. Там была вялікая вытворчасць Паклеўскіх (Тадэвуш дадае шэптам: *“Яны гарэлку рабілі”*). І вось сёлета прыехалі на Вілейшчыну вялікай сям'ёй.

## Страціў вока, але захаваў жыццё

У Польшчу Тадэвуш разам з сям'ёй – мамай, сёстрамі і братам – паехаў пасля Другой сусветнай вайны. Сям'я прыехала ў Лодзь як рэпатрыянты – палякі, якія вярнуліся на радзіму. Сёстры пайшлі ва ўніверсітэт, пасля пасту пілі і браты. Цяпер у жывых застаўся толькі Тадэвуш.

Падчас вайны сям'я жыла ў Вільні. Як сказаў суразмоўца, неабавязкова быць салдатам, каб цябе паранілі. У 1944 годзе падчас заняцця Вільні Чырвонай Арміяй адзін тыдзень у час Віленскай аперацыі былі баі. У ім Тадэвуш быў паранены. Страціў вока. Было вельмі цяжка цэлае жыццё пражыць з адным вокам.

## Ці выжывалі, ці паміралі

Бацька Тадэвуша разам з братамі нарадзіўся ў Сібіры.

*– Пасля яны вярнуліся сюды. Бацька ажаніўся з **Магдаленай Незабітоўскай** з-пад Гродна. Яе брат **Канстанцін** жыў непадалёк ад Камены. Тут і засталася яго ўнучка. Яго, я думаю, забілі ў першы ж дзень, 17 верасня. Ён быў з другога, польскага боку рэчкі. Быў у двары з жонкай і дзецьмі. У другой гадзіне дня яго забралі на савецкі бок ракі, павялі, і больш ніхто ніколі не бачыў.*

Сям'ю Козелаў-Паклеўскіх ад смерці ў 1939 годзе выратаваў выпадковы чалавек, камісар па Сэрвачы, Людвінова і Кастыках украінец **Цімчук**.

*– Ён прыехаў да маёй маці і сказаў, што, па яго дадзеных, Вільня дастанецца Літве. Што гэта вялікі горад, ён раіць маці браць дзяцей і ехаць у Вільню. А ён дасць пропуск.*

**– Чаму ён дапамагаў?**

*– Такі быў чалавек, ён усім дапамагаў. У час вайны ўжо з германцамі ён быў палітруком у партызанскай брыгадзе. А мой бацька быў раённым камендантам Вілейскай польскай канспіратыўнай арміі (Армія Краёва). Яны там пазнаёміліся ў гэты час. Былі людзі вельмі харошыя з абодвух бакоў.*

*Так мы паехалі цягніком ў Вільню ў кастрычніку 1939 года – мая маці і мы, пяцёра дзяцей. Цімчук казаў – едзьце, бо тут жывымі не застанецеся. Бацька ў той час быў мабілізаваны, у Вене намеснік камандзіра атрада ахо вы Віленскага ваеннага аэрадрома, аддзел Лідскага авіяцыйнага палка. Ён з гэтай ротай перад бальшавікамі сышоў з аэрапорта Парубанак ля Вільні да Гродна. Прабіўся праз Гродна на беларускі бок. Там быў інтэрніраваны – трапіў у лагер, адкуль нельга выходзіць. Уцёк з лагера і пражыў два месяцы ў адной сям'і. Пасля прыезду ў Вільню, таму што пачуў, што жонка з дзецьмі ў Вільні. Так сям'я вярнулася ў нармальны стан жыцця, але ненадоўга. У ліпені 1941 года ён вярнуўся ў Кастыкі. Мы засталіся ў Вільні, а ён застаўся тут. Прыняў ваенныя функцыі.*

*1 ліпеня 1942 года майго бацьку арыштавала гестапа ў Кастыках. Яго завезлі ў Вілейку ў турму.*

**Быў дзевяць дзён у турме, а пасля яго расстралялі на турэмным пляцы. Думаю, ён на новых могілках у Вілейцы ляжыць пад гэтым камянём. Тут яго косці.**

*Таму мы і прыязджаем сюды, да майго бацькі. Гэта наша святое месца.*

## Дзяцінства ў Кастыках

Тадэвуш і ў 83 гады памятае сваё дзяцінства ў Кастыках. Ён нарадзіўся 16 студзеня 1932 года. Штодзень у іх быў адзін і той жа рытуал. Пасля сняданку ішлі вучыцца, а потым можна было пагуляць. Вельмі шмат часу праводзілі ў двары. Можна было хадзіць да жывёл: коней, кароў. Бацька вучыў ездзіць конна. Хадзілі па палях, на гумно. Уся зямля вакол Кастыкаў была ў распараджэнні іх дзіцячых забаў.

*– Раз паспрабаваў араць, але ў мае восем год нічога не атрымала-ся, –* смяецца мужчына. *– Мы хадзілі ў лес, секлі дрэва, карчавалі пні. Крыху ведалі, як працаваць. Ужо ў Вільні былі зусім самастойныя. І сёстры, і я. Пасля мы з братам хадзілі на рынак, на зіму куплялі дровы. Пілавалі іх, секлі. Гэта была наша задача, маці такой справай не займалася. А таксама шмат вучыліся. Перад вайной прыязджала настаўніца, жыла ў нас і вучыла. Падчас вайны мы ўсе хадзілі ў школы. Я вучыўся ўвесь час, што былі ў Вільні.*

## Нацыянальнае пытанне

На пытанне, лічыць сябе беларусам ці палякам, Тадэвуш адказвае так:

*– Я гавару і па-літоўску, дарэчы. Скажу так: я з Вялікага Княства. Напэўна, па маўленні, выхаванні я паляк, але я ведаю, што мая сям'я з каранямі беларускімі і літоўскімі. Паклеўскі – гэта з літоўскай “пад клёнам”. Казёл – прозвішча абсалютна беларускае. Усе гэтыя краіны для мяне родныя – і Беларусь, дзе нарадзіўся і правёў дзяцінства, і Літва, дзе перажыў вайну, і Польшча, дзе стварыў сям'ю, стаўся як прафесіянал.*

## Слаўны род з сумнай гісторыяй

Тадэвуша прыцягвае Беларусь і тым, што яго продкі аддавалі жыццё за гэту краіну. Гэта кроўная сувязь на пралітай крыві.

Пяцёра братоў Козелаў-Паклеўскіх бралі ўдзел у паўстанні 1863 года **Кастуся Каліноўскага**. Двое з іх загінулі ва Уладыках, двое трапілі ў палон. Дзед Тадэвуша, **Юзаф Козел-Паклеўскі**, застаўся пахаваны ў 1915 годзе ў Сібіры.

Як пісаў у сваім даследаванні **Зміцер Хаценчык**, Юзаф кіраваў канторай Таліцкіх заводаў, займаў шэраг пасад у Пермскай губерні. У яго было трое сыноў: **Тадэвуш**, **Вінцэнт** і **Юзаф**.

Пасля смерці бацькі дзеці вярнуліся ў Вялікі Сэрвач і падзялілі спадчыну. Старэйшы сын, Юзаф, атрымаў Вялікі Сэрвач, Вінцэнт – толькі пабудаванае Людвінова, з закладзенай у ім фермай серабрыстых ліс, а малодшы, Тадэвуш, атрымаў Кастыкі з вадзяным млыном.

З трох братоў натуральнай смерцю памёр толькі старэйшы Юзаф, у якога было пяцёра дзяцей, якія цяпер жывуць у Польшчы. Сярэдні брат Вінцэнт быў расстраляны НКВД у 1940 годзе ў лагеры польскіх ваеннапалонных у Казельску. Малодшы з братоў, Тадэвуш, бацька нашага суразмоўцы, быў расстраляны немцамі ў 1942 за ўдзел у Арміі Краёвай.

Яго сын Тадэвуш – апошні з роду Козелаў-Паклеўскіх, народжаны ў Беларусі.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

# Студэнт Акадэміі мастацтваў: "Я скульптар, з сябе каго заўгодна вылеплю!"

**Аляксей Аксёнаў сёлета паступіў у Акадэмію мастацтваў. Прафесію выбраў рэдкую – скульптар. Хлопец упэўнены, што яго скульптурамі яшчэ ўпрыгожаць вуліцы гарадоў і лепшыя выставачныя залы. А пакуль адпачывае ад уступных іспытаў і малюе па просьбе маці карціну на кухню – персікі.**

МАЛАДЗЕЧНА

**– Чаму персікі, а не, як у Сярова, "Дзяўчына з персікамі"?**

– Няма дзяўчыны. Толькі персікі, – смяецца будучы скульптар.

## На матэматыцы маляваў графіці

Вучыўся таленавіты хлопец у 14 школе.

– Ну, не таленавіты, а ўмелы, – папраўляе суразмоўца.

Гаворачы пра сваю школу, закочвае вочы і ўсклiквае:

– Вечары сустрэч там розныя дакладна не пра мяне. Не падабалася мне вучыцца. У мяне і адзнакі былі адны тройкі ды чацвёркі. Затое на ўроках матэматыкі сядзеў на апошняй парце і маляваў эскізы будучых графіці. Пасля ўрокаў купляў балоны і ехаў куды-небудзь, дзе шмат шэрых сцен і палёт творчасці.

Пасля 9 класа Аляксей паступіў у Маладзечанскі музычны каледж.

– Мяне шмат чаму навучылі ў каледжы. Я цяпер магу маляваць абсалютна ў рознай тэхніцы. Хочаце шарж – калі ласка. Рабі вочы вялікімі і вейкі больш пухнатымі. Пейзажы, нацюрморты, партрэты – толькі дайце памаляваць. І чэргі ў паліклініку, і дарога ў электрычцы да Мінска – не праблема, абы ў заплечніку былі алоўкі і папера.

Сваю дыпломную работу рабіў амаль два тыдні – фігуру чароўнай незнаёмкі.

## Натуршчык працаваў на мяне па 12 гадзін у дзень

– А пасля заканчэння каледжа размеркавалі мяне настаўнікам малявання ў Любань. Не тое, каб спужаўся, наадварот думаю, што выкладаць – гэта цікава, але вырашыў паспрабаваць сілы і паступаць у акадэмію. Ну, не ў армію ж ісці.

**– А чаму не ў армію? Гавораць жа, што армія робіць з хлопчыка мужчыну.**

– Пачакайце, я ж скульптар. Я сам з сябе вылеплю каго заўгодна.

Прыехаў у маі на прагляд у Акадэмію мастацтваў. Пахадзіў па майстэрнях, адчуў пах фарбы і палюбіў гэта назаўсёды.

Потым была падрыхтоўка да паступлення з рэпетытарам.

– Натуршчыка мне бацькі нанялі. Каб ляпіць фігуру чалавека, трэба ж анатомію дасканала ведаць.

**– Навошта натуршчык? Што, сябры не пагадзіліся б папазіраваць?**

– А вы б змаглі 12 гадзін сядзець нерухома ў той позе, у якой я ляплю? Не. Для гэтага і ёсць спецыяльна падрыхтаваныя людзі, пенсіянеры, напрыклад.

У Акадэмію мастацтваў на спецыяльнасць "Скульптура" акрамя Аляксея паступілі яшчэ чатыры чалавекі. Усе – былыя аднагрупнікі, выпускнікі мінскай "глебаўкі", вядомага мастацкага каледжа.

– Мяне экзамены проста выматалі. Не тое, каб было цяжка. А проста было многа ўсяго. І галаву антычную ляпілі, і фігуру чалавека. І на вольную тэму.

На вольную тэму Аляксей ляпіў скульптурную кампазіцыю, прысвечаную тэме вайны, галакосту. Шмат знясіленых постацяў пераплялiся ў адзін клубок. На руцэ адной з такіх фігур – матылёк. І ўсе цягнуць рукі да гэтага матылька.

– Мяне натхніла работа адной маладой скульптаркі, але ўсю кампазіцыю прыдумаў сам. Інакш нецікава. А тое, што завяршэннем кампазіцыі будзе матылёк як сімвал жыцця, вызвалення, не ведаў і сам да апошняга.

А потым Аляксею абвясцілі, што ён паступіў. І стаў другі па рэйтынгу.

## У нас дом нетыповы. Пакоі шасцівугольныя, затое з майстэрняй

**– Адкуль здольнасці? Гэта сямейнае?**

– Ну, як сказаць. Бацька, Леанід Міхайлавіч, малюе добра. Але калісьці ў акадэмію не паступіў. Яго напужалі: "Ну, куды ты сунешся, ведаеш, якія людзі сюды паступаюць". Таму скончыў архітэктурна-будаўнічы факультэт. Вось свае веды дома і выкарыстоўвае.

Аляксей расказвае, што іх дом на Лясных – гэта сам па сабе твор мастацтва. Збудаваны цалкам па бацькавым праекце.

– У нас і пакоі нетыповыя – шасцівугольныя. Дом вялікі – шэсць пакояў.

Амаль у кожным пакоі ёсць нейкі элемент, які выразаў ці ляпіў бацька Аляксея. Атланты, карыятыды, анёлы.

– Цяпер з бацькам уладкоўваем трэнажорную залу. Але галоўнае – у мяне будзе свая майстэрня. З вялікімі вокнамі. Там святло кладзецца з захаду проста чароўна. Але пуста ў доме. Сястра старэйшая жыве ў Мінску, бацькі на рабоце. Я адзін у вялікім доме. А хочацца сям'і, дзяцей. Але каб жонка нават пэндзаль у руках не трымала. Творчыя дзяўчаты, яны ж такія, з прыветам. Бачыў я такіх у акадэміі, з фіялетавымі валасамі. Я сам не супраць эксперыментаў, але лічу, што выдзяляцца трэба нечым іншым.

**– У вас свая майстэрня, вялікі дом, вы – пястун лёсу?**

– Вядома, я ўдзячны бацькам, што мне не давodзілася думаць пра тое, як зарабіць грошы, што ў мяне ўсё ёсць. Але я працы не баюся. З задавальненнем прадаю на базары яблыкі. Мне нават падабаецца: "Белы наліў, дамашні белы наліў".

Але па спецыяльнасці Аляксей працаваць не думае.

– Акадэмія мастацтваў для мяне – гэта, хутчэй, добрая школа. Тут мяне навучаць многаму. Але скульптарам быць не хачу. Не, вядома, хацелася б, каб мае працы ўпрыгожвалі гарады, але нешта я слаба веру ў такую запатрабаванасць. Таму буду рабіць партрэты на заказ, маляваць карціны, распісваць сцены ў кватэрах і дамах. Без працы не застануся. А ўвогуле, я павінны быў нарадзіцца ў Італіі, гадоў 200 таму.

На нямое пытанне Аляксей адказвае:

– Італія – краіна, якая мяне натхняе. Працы Мікеланджэла мяне натхняюць. Ну, назавіце мне знакамітага беларускага скульптара? Ды я магу рабіць скульптуры не горш за іх! Калізей – прыгожы і велічны. Замак Радзівілаў – не. І самы галоўны мінус краіны – у нас мала сонца.

На развітанне Аляксей вымаўляе фразу:

– Сустрэнемся яшчэ. На маёй персанальнай выставе, напрыклад, праз год.



Фота Наталлі ТУР.

Аляксей Аксёнаў спрабуе сябе ў розных відах мастацтва, але скульптура – гэта тое, што дорыць натхненне.


Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)




Фота Анатоля РУДЗІНА.

Мяч трапляе ў перакладзіну варотаў "Смаргоні".

● ПЕРШАЯ ЛІГА

# "Смаргонь": шыкоўны гол і нічыя з лідарам

СМАРГОНЬ

**Пачаўшы другі круг з перамог над "Кобрынам" (3: 1) і "Слонімам" (5: 1), "Смаргонь" прыехала ў Мінск, каб працягнуць бяспройгрышную серыю. Нягледзячы на тое, што сапернік, "Іслач", з'яўляецца лідарам чэмпіянату.**

Ад першых хвілін госці аддалі ініцыятыву "Іслачы", самі сталі гуляць другім нумарам. Футбалісты з Мінскага раёна на 15-й хвіліне здолелі адкрыць лік у матчы, але не без дапамогі нашых футбалістаў.

**Халадзінскі** атрымаў мяч на лініі штрафной. Ён нямоцна прабіў у бок варотаў, але абаронца перашкодзіў нашаму галкіперу адбіць гэты ўдар. І мяч паздрадніцку закаціўся у пустыя вароты.

Пасля прапушчанага гола рысунак гульні не змяніўся. Гаспадары валодалі мячом, перыядычна стваралі моманты каля варотаў "чырвона-чорных". На шчасце для нашых футбалістаў, рэалізаваць гэтыя моманты футбалісты "Іслачы" так і не змаглі.

Але і наша каманда не бяздзейнічала. **Яўген Калінін**, **Аляксандр Ануфрыеў** і **Ігар Крывабок** у першым тайме, **Сяргей Крот** і **Аляксандр Дзегцяроў**, якія выйшлі на замену, раз за разам не давалі сумаваць галкіперу "Іслачы".

На 64-хвіліне пасля навеса з фланга Аляксандра Дзегцярова, Яўген Калінін шыкоўным ударам злёту забіў мяч у сетку гаспадароў. Аднавілі тым самым раўнавагу ў ліку 1:1.

У апошнія 25 хвілін і гаспадары, і госці мелі па адным стоадсотказым момансе. Але пасля ўдару нападніка "Іслачы" мяч трапіў ў перакладзіну і адскочыў у поле. Сяргей Крот выйшаў адзін на адзін з **Сяргеем Туранком**, ды ўмудрыўся трапіць у апошняга, а не ў вароты.

**Нічыйны вынік з лідарам – і, на жаль, смаргонцы апусціліся на шосты радок.**

У бліжэйшую нядзелю, 30 жніўня, каманда ФК "Смаргонь" правядзе чарговы матч чэмпіянату, у якім дома прыме "Бярозу-2010". Пачатак сустрэчы – у 17 гадзін.

**Уладзімір АМБРАСЕВІЧ,**
**Смаргонь.**

● ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

# Глядзім у фінальны этап

МАЛАДЗЕЧНА

**Цяпер у зонах другой лігі каманды змагаюцца за тое, каб патрапіць у фінальны этап. Ведаем, што туды адправяцца па чатыры лепшыя з кожнай зоны.**

Значная група камандаў знаходзіцца, што называецца, на мяжы. Яны могуць стаць у зоне трэцімі-чацвертымі, а могуць і не выйсці на жаданыя пазіцыі, спыніцца на пятых-шостых радках. Такія каманды не могуць вырашыць задачу па выхадзе ў першую лігу. Магчымасць патрапіць у фінальны этап для іх – гэта, перш за ўсё, магчымасць працягнуць актыўны сезон.

Адна справа – на працягу кастрычніка і лістапада згуляць восем сустрэч з моцнымі прапцўнікамі, прадстаўнікамі іншай зоны ў фінальным этапе. Зусім іншая справа – на пачатку кастрычніка сумна правесці ўсяго дзве стыкавыя сустрэчы за "нацдатыя" радкі і на гэтым завяршыць свой сезон.

Каманды, што займаюць у зоне першыя-другі радкі, ставяць сабе задачы больш сур'ёзныя. Зараз яны практычна забяспечылі выхад у фінальны этап і ўжо занятыя іншымі праблемамі. Вельмі важнымі для іх становішча так званыя "залатыя" ачкі, набраныя ў сустрэчах з суседзямі-лідарамі, з тымі праціўнікамі, якія таксама прабіўцца ў насычаную падзеямі познюю восень.

Хаця маладзечанцы лідзіруюць у сваёй паўночна-ўсходняй зоне, але не надта абагаціліся ачкамі, што могуць стаць "залатымі". Наша каманда згуляла ўнічыю з мар'інагорцамі на выездзе і ўжо двойчы згуляла таксама ўнічыю з ашмянцамі. "Тарпедзе" з Магілёва мы саступілі дома і "Жлобіну" саступілі дома, праўда, на іх полі атрымалі перамогу. Найлепшым жа варыянтам для нас стане прарыў "Асіповічаў", над якімі ўзялі верх у абодвух матчах. Трэба будзе пахварэць за гэты калектыў у наступных турах. Можна яшчэ і папоўніць сабе скарбонку ў дамашняй гульні з мар'інагорцамі і выязной гульні з магіляўчанамі.



**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**
E-mail: sm2@tut.by

**Турнірнае становішча пасля матчаў 22 жніўня**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Маладзечна-ДЮСШ | 14 | 30 |
| 2. | Вікторыя (Мар'іна Горка) | 14 | 27 |
| 3. | Ашмяны | 13 | 23 |
| 4. | Тарпеда (Магілёў) | 14 | 23 |
| 5. | Жлобін | 14 | 22 |
| 6. | Асіповічы | 14 | 22 |
| 7. | Спартак (Шклоў) | 13 | 16 |
| 8. | Ждановічы | 14 | 15 |
| 9. | Рагачоў-МК | 13 | 6 |
| 10. | Прыязер'е (Верхнядзв.) | 13 | 5 |

● НАВІНЫ

## "Вілія" мінімальна абыграла "Забудову-Буд"

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Каманды сустракаліся ў чэмпіянаце Мінскай вобласці 23 жніўня ў Вілейцы: "Вілія" і "Забудова-Буд" з Чысці. Віляйчане мінімальна перамаглі 1:0. Гол у першым тайме забіў **Аляксандр Грыхуцік**.

– Нашай камандзе ўдалося забіць, а гасцям – не. Самае галоўнае, што тры ачкі нашы, – падзяліўся ўражаннямі даўні заўзятар "Віліі" **Артур Мінчук**. – Было прыемна паназіраць за **Віталём Куляшом**, які праз некалькі сезонаў зноў быў на вастрыі атакі, а не ў абароне. Прыемна здзівіў у паўабароне навічок **Лепято** – думаю, ён нам у будучыні дапаможа. На "ўра" згуляла абарона, добра глядзеўся **Андрэй Шабан**. Другую, а можа, і трэцюю маладосць перажываюць **Дзмітры Янель** і **Аляксей Юхнавец**. Выдатная гульня варатара **Паўла Лявошкі**.

Расчараваны Артур, што на матчы было мала заўзятараў.

"ДЮСШ-4" з Маладзечна ў гасцях разграміла ФК "Нясвіж" 6:1. Хет-трык зрабіў **Сяргей Лавор**. Па адным голе – на рахунку **Галюка**, **Фядотава** і **Макрыцкага**.

Каманды з рэгіёна засталіся на ранейшых пазіцыях. ДЮСШ-4 – на трэцім месцы, "Вілія" на шостым, "Забудова-Буд" – на восьмым.

## Чатыры галы Купнеўскага

АШМЯНЫ

У чэмпіянаце другой лігі ФК "Ашмяны" 22 жніўня у гасцях гуляў з "Тарпеда-Магілёў".

Матч завяршыўся нічыёй 4:4. Усе галы ў ашмянцаў забіў **Дзмітры Купнеўскі**. "Ашмяны" ўсё даганялі саперніка і ў апошні раз зраўнялі лік на 89-й хвіліне.

## Смаргонская "Вілія" перамагла ў Шчучыне

СМАРГОНЬ

У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па футболе "Вілія" (Смаргонь) 23 жніўня гуляла ў Шчучыне супраць мясцовай каманды.

Смаргонцы выйгралі 3:1. Пасля першага тайма вялі 2:0. У другім прапусцілі адзін гол, і фінал выдаўся нервовы. Але ў самым канцы госці забілі яшчэ адзін гол, расказаў гулец "Віліі" **Віталь Будай**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЗНАРОК НЕ ПРЫДУМАЕШ

# Як ездзілі мы ў госці да сына

ВАЛОЖЫН

**Сустрэла знаёмую, якая расказала мне смешную гісторыю, як яна з мужам у адпачынку ездзіла на госці да сына.**

Сын жыве ў іншай краіне, купіў жыллё, ну, як тут не наведаць яго. Прыслаў запрашэнне, яны зрабілі візы і... паляцелі.

– Звечара сын кажа, што заўтра я ненадоўга схаджу на работу, а вы тут адпачывайце, пад абед прыеду, – расказвае **Вера** з Валожына. – Раніцай прачнулася я, выходжу ў прыхожую і, бацюхны мае, жанчына нейкая стаіць. “Адкуль гэта баба ўзялася”, – думаю. Сын жа нічога не казаў, што нехта прыйдзе. Мусіць, дзверы не зачыніў, ён казаў, што амаль ніколі не замыкае дзверы. Ну, вось, мы прыехалі, і на табе, сюрпрыз. Што мне рабіць?!

Я кажу sorry (прабачце), бо больш і не ведаю, што сказаць, мовы ж іх не вывучыла, і бягу ў пакой, каб надзець халат, бо ў начной сарочцы ж стаю. Выходжу, глядзь, дык ужо ж другая жанчына стаіць. У мяне аж сэрца ў пяткі звалілася. Пытаюся па-нашаму: “Што вам трэба?”

І толькі тут да мяне даходзіць, што бачу сябе ў люстэрку. А ў сына ў прыхожай, перад ванным пакоем, люстэрка ад столі да падлогі, ды яшчэ і шырокае. Бачыш сябе, а думаеш, што нехта прыйшоў. Пасмяялася сабе і думаю, як жа муж адрэагуе, калі ўстане. Зараз жа і ён паплёўся ў прыбіральню. Гляджу, бягом назад і раз – за дзверы. Кажа: “Там нейкі мужчына прыйшоў, а я ў трусах! Выйдзі ты”.

Я ўжо зайшлася ад смеху і не магу прамовіць ні слова. Ён, што ты смяешся, там жа чалавек стаіць! І тут адкрываю яму сакрэт незнаёмца, і мы качаемся ад смеху.

Калі расказалі сыну, як той прыйшоў з работы, усе рагаталі разам.



Марыя БЕРАСНЕВА.
beresneva.maria@gmail.com



СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 6 | | 1 | | | | 4 |
| | | 2 | | | 5 | | | |
| | | 8 | | | | | 7 | 9 |
| | 3 | 7 | | 8 | 2 | | | |
| 6 | 9 | | | | | | 8 | 2 |
| | | | 9 | 3 | | 7 | 6 | |
| 8 | 6 | | | | | 9 | | |
| | | | 4 | | | 6 | | |
| 7 | | | | 5 | | 1 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя, мультфільм, сямейны “**Міньёны**” (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
28 жніўня– у 15:30
29 жніўня – у 13:00
30 жніўня – у 12:10
31 жніўня – у 14:20
Цана білета: 30 000 рублёў

Фантастычныя прыгоды “**Свет Юрскага перыяду**” (3D, ЗША, Кітай, 2015)
28 жніўня – у 19:30
29 жніўня – у 15:00
30 жніўня, 1 верасня – у 16:20
31 жніўня, 2 верасня – у 18:30
Цана білета: 30 000-55 000

Крымінальная камедыя “**Агенты U.N.C.L.E.**” (ЗША, 2015, з 16 год)
29 жніўня – у 17:30
31 жніўня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прыгоды, баявік, фантастыка “**Фантастычная чацвёрка**” (ЗША, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
28 жніўня – у 22:00
29 жніўня – у 19:50
30 жніўня – у 14:10
30 жніўня, 1 верасня – у 18:50
31 жніўня – у 16:20
2 верасня – у 21:00
Цана білета: 35 000-50 000

Камедыя, прыгоды “**Канікулы**” (ЗША, 2015, з 16 год)
28 жніўня, 3 верасня – у 17:30
29 жніўня – у 22:00
30 жніўня, 1 верасня – у 21:00
Цана білета: 45 000-50 000

Прэм’ера! Баявік, трылер, крымінал “**Хітмэн: Агент 47**” (Германія, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
3 верасня – у 19:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм’ера! Камедыя, трылер “**Хлопец з нашых могілак**” (Расія, 2015, з 16 год)
3 верасня – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя, прыгоды, фантастыка “**Робаты**” (Малайзія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
29 жніўня – у 14:30
31 жніўня – у 15:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі, прыгоды “**Оз: Нашэсце лятучых малпаў**” (Мексіка, 2015, без узроставых абмежаванняў)
28 жніўня – у 16:30
30 жніўня – у 17:00
1 верасня – у 16:00
Цана білета: 15 000-20 000

Анімацыя “**Прыгоды мышаняці**” (Перу, Аргенціна, 2013, без узроставых абмежаванняў)
30 жніўня – у 15:00
1 верасня – у 14:00
Цана білета: 15 000-20 000

Анімацыя “**Лясны патруль**” (Нарвегія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
29 жніўня – у 16:30
3 верасня – у 17:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя, сямейны, прыгоды “**Тэд Джонс і згублены горад**” (Іспанія, 2012, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
31 жніўня – у 17:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя “**Прывід**” (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
28 жніўня, 3 верасня – у 18:30
31 жніўня – у 19:30
1 верасня – у 18:00
2 верасня – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік, прыгоды, драма “**Апошнія рыцары**” (Чэхія, Паўднёвая Карэя, 2014, з 18 год)
28 жніўня – у 21:00
30 жніўня – у 21:30
3 верасня – у 20:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгоды, фантастыка, трылер “**Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца. Частка 1**” (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
29 жніўня – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма, трылер “**Вядзьмарка**” (Расія, 2015, з 16 год)
29 жніўня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Фэнтэзі, трылер, дэтэктыў “**Як злавіць монстра**” (ЗША, 2014, з 16 год)
30 жніўня – у 19:30
2 верасня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя “**8 новых спатканняў**” (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
31 жніўня – у 21:30
1 верасня – у 20:00
2 верасня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92**, **77-06-30**

## Кінатэатр “Мір”, Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя “**Самыя праўдзівыя гісторыі**” (Расія, без узроставых абмежаванняў)
28 жніўня – у 14:30
29 жніўня – у 13:30
30 жніўня – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Баявік, крымінал “**13-ы раён: Цагляныя асабнякі**” (Францыя, Канада, з 16 год)
28 жніўня – у 18:00
29, 30 жніўня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер “**Пакт 2**” (ЗША, з 16 год)
28 жніўня – у 20:00
29, 30 жніўня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя “**Пухнатыя супраць зубастых**” (Паўднёвая Карэя, без узроставых абмежаванняў)
29 жніўня – у 15:00
30 жніўня – у 13:30
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фантастыка, баявік “**Свет Юрскага перыяду**” (3D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
28 жніўня – у 16:00
29 жніўня – у 14:00
30 жніўня – у 15:00
Цана білета: 30 000 рублёў
29 жніўня – у 18:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Фантастыка, баявік “**Фантастычная чацвёрка**” (2D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
28 жніўня – у 18:30
30 жніўня – у 19:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прыгоды, камедыя “**Канікулы**” (2D, ЗША, з 16 год)
28 жніўня – у 20:30
29 жніўня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, камедыя “**Міньёны**”, (3D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
29 жніўня – у 16:30
30 жніўня – у 13:00
Цана білета 30 000 рублёў

Крымінальная камедыя “**Агенты А.Н.К.Л.**” (2D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
30 жніўня – у 17:30
Цана білета:: 45 000 рублёў

Фантастыка, трылер “**Не ў сабе**” (2D, ЗША, з 16 год)
30 жніўня – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59**

ГАРАСКОП
28 ЖНІЎНЯ-3 ВЕРАСНЯ



**Авен.** Вы атрымаеце ўсё, каб ажыццявіць свае жаданні і даўно задуманыя планы. Выберыце асноўны напрамак для дзейнасці і праявіце максімум працавітасці і намаганняў.



**Цялец**. Прадуктыўны, але і складаны перыяд. Вы заўсёды імкняцеся быць на вышыні, быць першым, часам можаце зрабіць немагчымае магчымым. Але бывае, што нешта і вам не па зубах. Галоўнае, не расслабляйцеся, ідзіце да пастаўленай мэты.



**Блізняты.** Вядзіце сябе разважліва. Прычына нестабільнасці ў адносінах хаваецца ў вашых паводзінах – вы то дабрадушныя і ўступчывыя, то раздражнёныя і ўпартыя. Навядзіце парадак у думках.



**Рак.** Усяму віной будзе ваша залішняя эмацыйнасць. Вы ўсё прымаеце блізка да сэрца. З-за гэтага можаце раздражняцца без прычыны на блізкіх вам людзей. Трымайце сітуацыю пад кантролем.



**Леў.** Верце ў сябе, не губляйце ўпэўненасці. Успрымайце любыя абставіны як удачу. І тады гэтая ўдача не прымусіць сябе чакаць.



**Дзева.** Калі вам удасца пазбегнуць неканструктыўных дзеянняў, вы адкрыеце дарогу да бяспечнай будучыні, дабрабыту.



**Шалі.** Каб вашы задумы рэалізоўваліся так, як быццам у вас ёсць чарадзейная палачка, верце ў сябе, у тое, што вы можаце ўсё. Тады збудзецца тое, пра што вы нават і думаць не маглі.



**Скарпіён.** Вы павінны добра ведаць, што можна і чаго нельга абмяркоўваць з нейкім канкрэтным чалавекам.



**Стралец.** У вас можа памяняцца меркаванне пра некаторых сяброў. Пры філасофскім падыходзе да жыцця вы лёгка выйдзеце на больш высокі ўзровень свядомасці.



**Казярог.** Каб пазбегнуць праблем, сканцэнтруйцеся на тым, што вельмі важна. Аддзяліце галоўнае ад другаснага. Работа запатрабуе намаганняў і нестандартных рашэнняў, але вынік будзе.



**Вадалей.** Менавіта цяпер у вас з’явіцца шанец сустрэць свой лёс. Нават калі вы не пражываце ўсё жыццё разам, гэта сустрэча значна паўплывае на ваша жыццё ў добрым сэнсе гэтага слова.



**Рыбы.** Добры час для генеральнай уборкі, дзякуючы якой вы не толькі палепшыце ўмовы жыцця, але і знойдзеце даўно і незваротна зніклую рэч.

Марыя УРБАНОВІЧ.

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

## ● НАДВОР'Е

### 29 жніўня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +18 / +27 | | +15 / +25 | | +15 / +24 | | +15 / +28 | |
| | 740 | ↗ 5 | 744 | → 8 | 747 | ↘ 6 | 741 | ↑ 4 |
| Вільня | +17 / +23 | | +16 / +21 | | +12 / +23 | | +14 / +26 | |
| | 747 | ↗ 5 | 753 | → 8 | 756 | → 5 | 747 | ↖ 4 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с / Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.15
Захад 20.11
Даўжыня дня 13.56

Усход 19.50
Захад 5.36
Квадра 3



## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### НАРАЧ (КУПА)

Мінімальная тэмпература +4,3 °C у 1990 годзе
Максімальная тэмпература +25,2 °C у 2009 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,2 мм у 1982 годзе
Назіранні за 23 года (°C). Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- У наступным нумары "РГ" мастак і выкладчык цымбалаў Юры Церабун успамінае пра Васіля Лазоўскага і разважае на тэму, чаму вядомым маладзечанскім мастакам надаецца не так шмат увагі, як яны таго заслугоўваюць.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Чым вам запомнілася гэта лета?

**Карына Аўдзіенка, нарыхтоўшчыца сыравіны і матэрыялаў:**
– На вяселлі была – сяброўка выйшла замуж. Гэта, напэўна, самая знакавая падзея для мяне за ўсё лета. А так працавала, адпачываць буду толькі зімой. Таму іншых знакавых падзей для мяне не было.

**Павел Раманаў, выратавальнік:**
– Лета запомнілася паездкай у Беларусь, у прыватнасці ў Маладзечна. Сам я з Расіі. Сюды прыехаў на чатыры дні да сваякоў. Вельмі спадабалася тое, што Маладзечна дагледжаны, чысты, з мноствам кветак горад. Быў таксама ў Мінску, адпачываў на Мінскім Моры.

**Вера Пінчук, пенсіянерка:**
– Лета запомнілася разнастайнымі святамі ў горадзе, у прыватнасці ў гарадскім парку. Падабаецца тое, што наш парк стаў цэнтрам для гульняў і адпачынку дзяцей. Таксама больш сталыя людзі могуць пасядзець там з газетай, сустрэць знаёмых, калег.

**Вікторыя Корсак, цырульніца:**
– Летам у мяне не было адпачынку – працавала. Таму не магу сказаць, што лета было для мяне нечым адметнае і адрознае ад папярэдняга. Буду адпачываць восенню, спадзяюся, што адпачынак будзе запамінальны.

**Мікалай Арыка, пенсіянер:**
– Лета запомнілася спёкай. А так нічога адметнага не было – унукі і дзеці не прыязджалі, размаўляў і бачыў іх толькі па скайпе. Жывуць яны далёка – у Пецярбургу і Даніі.

**Дзяніс Прахоцкі, навучэнец:**
– Было вельмі многа планаў на лета, аднак яны не здзейсніліся. Адпачываў на возеры, выспаўся, парадавала надвор'е ў ліпені і жніўні – было спякотна. Але адпачынку крышачку не хапіла – хочацца яшчэ і нечага незабыўнага.

**Алеся Дрозд, маладая мама:**
– Сёлета нікуды не ездзілі адпачываць, бо дзіця малое. Адпачывалі на свежым паветры, елі садавіну, гародніну. Самае запамінальнае для мяне як для мамы гэтым летам было тое, што прывучыла сына хадзіць на гаршчок, больш слоў стаў гаварыць.

Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 35 (1061) 28.08.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1114. Падпісана ў друк у 9.00 27.08.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.